**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 32 (853) 11 жніўня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**7 жніўня ля крыніцы ва ўрочышчы Грамякі, Асінагародскага прыходу (Пастаўскі раён), адбыўся традыцыйны вадасвятны малебен у гонар святога Вялікапакутніка і лекара Панцелеймана.** *Працяг тэмы на стар. 4.* Фота Ул. Скрабатуна.

## Грамадзян Беларусі запрашаюць ініцыіраваць прапановы ў сферы культуры

Грамадзян Беларусі запрашаюць ініцыіраваць прапановы ў сферы культуры, паведамілі БелТА ў Міністэрстве культуры. “З мэтай падтрымкі грамадскай ініцыятывы і наладжвання сумеснай работы дзяржаўных органаў, арганізацый культуры розных форм уласнасці і грамадзян па вырашэнні надзённых пытанняў культурнага жыцця Беларусі Міністэрства культуры ініцыіруе збор прапаноў для фарміравання праекта “Культурныя ініцыятывы для Беларусі” для яго рэалізацыі ў 2017 годзе і наступных гадах”, - адзначылі ў ведамстве.

Ініцыятарамі прапаноў могуць выступаць дзяржаўныя органы, арганізацыі культуры розных форм уласнасці, у тым ліку грамадскія аб’яднанні і грамадзяне Беларусі, а таксама замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі краіны. Прапановы павінны закранаць пытанні развіцця беларускай культуры ў краіне або інтэграцыі беларускай культуры ў сусветную культурную прастору і могуць уключаць у сябе фармулёўку праблемы, якая перашкаджае развіццю культуры на сучасным этапе, і напрамкі яе вырашэння шляхам прыняцця адпаведных юрыдычных, эканамічных або арганізацыйных мер з боку дзяржавы, або новага культурнага праекта, які вызначаецца злабадзённасцю, арыгінальнасцю, мае сацыяльны і (або) эканамічны эфект, і шляхоў яго рэалізацыі. Пры адборы прапаноў перавага будзе аддавацца тым, рэалізацыя якіх абапіраецца на шматканальнае або пазабюджэтнае фінансаванне. Прапановы для фарміравання праекта “Культурныя ініцыятывы для Беларусі” можна прысылаць да 1 верасня бягучага года ў Міністэрства культуры (па пошце на адрас: 220004, Мінск, пр.Пераможцаў, 11 або на электронны адрас: ministerstvo@kultura.by з паметкай “Культурныя ініцыятывы для Беларусі”) або ва ўстанову адукацыі “Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў” (па пошце на адрас: 220007, Мінск, ул. Рабкораўская, 17 або на электронны адрас buk@buk.by з паметкай “Культурныя ініцыятывы для Беларусі”). Больш падрабязная інфармацыя аб умовах удзелу змешчана на сайце ведамства ў рубрыцы “Конкурсы і мерапрыемствы”. Адбор культурных ініцыятыў будзе праведзены да 15 кастрычніка бягучага года. Вынікі адбору будуць аб’яўлены на афіцыйным сайце Міністэрства культуры Беларусі (www.kultura.gov.by).

***БелТА.***



ISSN 2077-8023



## Мёрскі раён

# Доўгабуд б'е рэкорды

■ Чэслаў Якубовіч.

**Крызісныя з'явы ў эканоміцы апошнім часам вельмі балюча ўдарылі і па будаўнічай галіне.**

Калектыў цэнтральнай раённай бальніцы ў Мёрах сёлета нядаўна адзначыў свой 70-гадовы юбілей і з гэтай нагоды атрымаў у падарунак патрэбны новы рэнтген-апарат. Таксама мясцовым медыкам цвёрда паабяцалі ў наступным 2017 годзе нарэшце завяршыць будаўніцтва новай клінікі. Гэты аб'ект, а фактычна новую ЦРБ уключаць у абласную інвестыцыйную праграму, на завяршэнне доўгабуду накіруюць 55 млн. дэнамінаваных рублёў ( 55 млрд. у старым вымярэнні). Пакуль жы раённая медыцына дзейнічае ў спецыфічных умовах, бо ў розных месцах райцэнтра працуюць яе 11 карпусоў. Роўна 30 гадоў назад тут пачынаўся праект узвядзення новага будынка бальніцы, але па розных прычынах спыняўся з-за недахопу грошай. Пяціпавярховы корпус урэшце рэшт закончылі, правялі сюды камунікацыі, але давесці да ладу ніяк не могуць. Хто толькі з высокіх чыноў на ім не бываў, але без падрымкі з верху мясцовым уладам завяршыць будоўлю пакуль не атрымлівалася. У падобнай сітуацыі знаходзіліся доўга і медыкі з суседняй Шаркаўшчыны, але ім пашчасціла болей. Знайшліся патрэбныя сродкі і ў суседзяў гарпасёлак упрыгожыў новы прыгожы будынак райбальніцы. З іншага боку колькі толькі адных лядовых палацаў з'явілася па краіне, пакуль у Мёрах заставаўся доўгабуд. Дарэчы, мясцовыя жыхары горка жартуюць, што ў мінулым прыгожы касцёл у стылі неаготыкі пабудавалі за некалькі гадоў. Нашчадкі не могуць узвесці новую бальніцу ўжо столькі часу, хоць адзін з яе старых карпусоў размешчаны, па іроніі лёсу, па суседстве з храмам.

## Лепельскі раён

# Суд слязам не верыць

■ Станіслаў Раманчук.

**У дзяцінстве асобным падлеткам хочацца выглядаць занадта "крутымі", рабіць неабдуманыя ўчынкі, расплата за якія можа быць суровай.**

Вось і ў адной з сярэдне-спецыяльных навучальных устаноў Лепеля нядрэнна вучыліся два 16-гадовыя хлопцы, былі актывістамі, спартсменамі. З імі ў выкладчыкаў не было ніякіх праблем, і ўсе перажылі сапраўдны шок, калі даведаліся, што гэтыя навучэнцы рашыліся на сур'ёзнае злачынства. Яны ў поўдзень днём адзелі маскі і ўварваліся ў магазін-павільён "Беляніца" мясцовага райпо. Пагражаючы прадаўцу нажом і прадметам, падобным на пісталет, рабаўнікі забралі з касы 8 млн. старых рублёў і паспрабавалі ўцячы. Аднак юных злачынцаў неўзабаве затрымалі па гарачых слядах. Хоць правапарушальнікі кампенсавалі гандлёвай кропцы нанесены ўрон, іх крымінальная справа пасля завяршэння следства паступіла ў суд. Першапачаткова хлопцы тлумачылі, што такім чынам завалодаўшы лёгкімі грашыма, яны хацелі абзавесціся модным адзеннем на лета. Ужо ў судовым пасяджэнні на лаве падсудных толкам свой ганебны ўчынак не змаглі абгрунтаваць. Толькі калі стала ім зразумела, што за гэта па галоўцы суд не пагладзіць, навучэнцы ўсвядомілі, што яны нарабілі. Аднак слёзы пакаяння не змаглі паўплываць на прысуд за групавы разбой. Па гэтым артыкуле крымінальнага кодэкса санкцыі пакарання пачынаюцца ад 6 гадоў. Пры іншых абставінах за кратамі можна апынуцца нават на 15 гадоў і пазбавіцца нажытай маёмасці. У гэтым выпадку двое падлеткаў атрымалі па 6 гадоў папраўчай выхаваўчай калоніі кожны, колькі і запатрабаваў прадстаўнік пракуратуры.

## Пастаўскі раён

# Варта толькі захацець

■ Кастусь Александровіч

**Мільёны людзей рознага ўзросту з вялікім задавальненнем ва ўсім свеце штодзень займаюцца самым папулярным відам спорту на планеце – футболам.**

У нашай краіне адным з лепшых цэнтраў развіцця гэтай рухомай гульні працягваюць заставацца Паставы. Зусім невыпадкова адразу тры каманды адтуль сталі ў Оршы днямі пераможцамі абласнога фіналу рэспубліканскіх спаборніцтваў сярод дзяцей і падлеткаў па месцы жыхарства "Скураны мяч". Юныя пастаўчане ва ўзроставых групах 9-10, 11-12 і 13-14 гадоў неўзабаве будуць абараняць гонар Віцебскай вобласці ў рэспубліканскім фінале, якія прымуць адпаведна Пружаны, Слонім і Горкі. Гульня мільёнаў актыўна стала развівацца тут яшчэ ў 2005 годзе, калі ўступіў у строй пасля рэканструкцыі гарадскі стадыён, потым пабудавалі і футбольны стадыён ПМЦ. Мэблевы цэнтр тады ж пачаў праводзіць чэмпіянат раёна сярод школьнікаў, стварыў пазней адну з першых у Беларусі футбольную акадэмію еўрапейскага ўзроўню. І нават калі з-за фінансавых цяжкасцей яе прыйшлося прадпрыемству закрыць, засталіся традыцыі, спецыялісты і каля двухсот дзяцей, якія палюбілі гэту гульню. У элітных беларускіх клубах цяпер гуляе на прафесійным узроўні цэлая група выхаванцаў пастаўскага футбола, у якога ёсць будучыня. З новага навучальнага года пры мясцовай ДЮСШ адкрываецца аддзяленне футбола. Для хлопчыкаў, з якімі будуць працаваць тры трэнеры, закуплены патрэбная форма, спортінвентар і дастаткова мячоў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 11.08.16 | | | | Пятніца 12.08.16 | | | | Субота 13.08.16 | | | | Нядзеля 14.08.16 | | | | Пан. 15.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +12 | +16 | +14 | +12 | +13 | +16 | +12 | +9 | +13 | +17 | +15 | +15 | +16 | +18 | +16 | +13 | +14 | +19 |
| Ціск | 744 | 746 | 747 | 747 | 748 | 749 | 749 | 749 | 749 | 749 | 747 | 746 | 746 | 746 | 746 | 746 | 746 | 748 | 750 |
| Вецер м/сек | 4 Пн | 5 Пн-З | 1 Пн-З | 2 Пд-З | 2 Пд-З | 3 З | 4 З | 2 Пд | 2 Пд | 3 Пд | 7 Пд-З | 6 Пд-З | 4 З | 6 Пд-З | 7 З | 4 З | 4 З | 4 Пн-З | 2 Пн-У |
| Вільготнасць | 95 | 100 | 73 | 80 | 93 | 81 | 62 | 85 | 100 | 88 | 71 | 97 | 98 | 96 | 71 | 79 | 92 | 97 | 57 |

# Аб самым надзённым

## НА ФОНЕ ГАЗАВЫХ І НАФТАВЫХ СПРЭЧАК РАСІЯ ПРЫГРАЗІЛА БЕЛАРУСІ ПЕРАСТАЦЬ КУПЛЯЦЬ ЯЕ "НЯЯКАСНУЮ" МАЛОЧНУЮ ПРАДУКЦЫЮ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**У дадатак, каб беларускі бок быў болей падатлівым, Расія ўзяла ў рукі і нафтавую "дубіну" і толькі ў 3-м квартале года недапаставіць нам нафты аб'ёмам 2,25 млн. тон. З гэтай нагоды ў Маскве прайшлі напрыканцы ліпеня чарговыя перамовы па гэтых пытаннях.**

Вось ужо, сапраўды, сёлетнім летам сумаваць не выпадае, бо практычна штодзень сталі прыходзіць шакіруючыя навіны аб неверагодных падзеях. Адной з такіх стала забойства ў Кіеве падчас выбуху ў машыне аднаго з самых яркіх беларускіх журналістаў Паўла Шарамета. Перад гэтым пасля няўдалай спробы ваеннага перавароту і гібелі соцень людзей у Турцыі ўвялі надзвычайнае ваеннае становішча і загаварылі аб вяртанні ў гэтай краіне да пакарання смерцю. Неспакойна было на вуліцах Алма-аты, а яшчэ болей у Ерэване, дзе захапілі ўзброеныя людзі будынак аднаго з аддзяленняў паліцыі і разыгралася трагедыя з заложнікамі.

Перад пачаткам летняй Алімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра ад гэтых спаборніцтваў адхілілі мужчынскую каманду беларускіх весляроў з-за нібыта жаночага трэнера, якая ўвезла ў Францыю на зборы забаронены медпрэпарат. Расійскія спортфункцыянеры прайгралі ў міжнародным судзе справу па допуску сваіх лёгкаатлетаў да буйнейшых стартаў чалавецтва. У той самы дзень нам беларусам паведамілі аб павелічэнні цэн на газ у 2017 годзе і намерах зрабіць яе аднолькавай зімой і летам. На той момант розныя СМІ сталі сцвярджаць, што беларускі доўг Расіі за блакітнае паліва павялічыўся сёлета да 270 млн. долараў.

Як вядома, менавіта на 22-м годзе кіравання сінявокай Беларуссю нязменным прэзідэнтам пакрыху зноў стала развівацца канфліктная сітуацыя з "Газпрамам". Беларускае кіраўніцтва, бачачы як імкліва сталі падаць сусветныя цэны на энерганосьбіты, палічыла, што справядлівым будзе кошт закупак расійскага газу ў памерах 73 долараў за тысячу кубаметраў (нам выстаўляюць рахункі па цане 132 USD, што ненамнога меней, чым палякам і немцам). Але руская ўперліся, не ідуць беларусам насустрач і ў выніку нашы партнёры звярнуліся ў міжнародны арбітраж, каб Беларусь пагасіла сваю запазычанасць.

У дадатак, каб беларускі бок быў болей падатлівым, Расія ўзяла ў рукі і нафтавую "дубіну" і толькі ў 3-м квартале года недапаставіць нам нафты аб'ёмам 2,25 млн. тон. З гэтай нагоды ў Маскве прайшлі напрыканцы ліпеня чарговыя перамовы па гэтых пытаннях .Расійскае дасведчанае выданне "КоммерсантЪ" першым паведаміла, што Беларусь пайшла Крамлю насустрач, заплоціць доўг па газу. Пасля гэтага расійскія партнёры быццам пагадзіліся павялічыць на 37 % бяспошлінныя пастаўкі нам сваёй нафты, а беларусы могуць дабіцца і зніжэння газавых цэн на чвэрць, калі пойдуць насустрач РФ у застарэлых пытаннях стварэння СП на МАЗе і гродзенскім "Азоце", да якіх маюць інтарэс суседзі.

Увогуле Расія апошнім часам супраць нас пачала дзейнічаць з пазіцыі сілы, цісне эканамічна. Толькі паведамілі, што беларусы ў першым паўгоддзі зарабілі ад экспарту свайго харчавання 1 млрд. долараў, як "Рассельгаснагляд" афіцыйна прыгразіў забараніць увоз прадукцыі з шэрагу беларускіх малочных прадпрыемстваў, калі адтуль прадоўжаць адгружаць тавары з нібыта перавышэннем мікрабіялагічных паказчыкаў бяспекі. Азнаёміўся я са спісам такіх айчынных малзаводаў і дзіву даўся, хто туды патрапіў. Расійскае ведамства, якое часта гуляе ў карную палітыку (узгадаем прэтэнзіі да грузінскіх і малдаўскіх він, мінеральнай вады "Баржомі", украінскіх прадуктаў з салам) цяпер у спіс нядобранадзейных унесла беларускіх лідараў галіны "Савушкаў прадукт", "Мінскі малзавод № 1", малочныя прадпрыемствы Магілёва, Віцебска, Баранавіч і іншыя.

Дайшло да таго, што і наша рыбная прадукцыя брэсцкай кампаніі "Санта Брэмар" раптам стала небяспечнай для расійскіх пакупнікоў, хоць яна, як і беларуская малочка, самай высокай якасці, адпавядае сусветным стандартам. Пакрыўджаныя апошнім часам на ўвесь свет рускія перакрылі нядаўна пастаўкі на свой рынак сухога малака з 15 беларускіх малочных прадпрыемстваў. На шэрагу іншых і на асобных айчынных мясакамбінатах Беларусь прымусілі ўвесці ўзмоцнены лабараторны кантроль. Вось з такім яўна "пераборлівым" і ганарыстым суседам прыходзіцца нам мець цяпер справы, знаходзячыся ў Мытным саюзе і ЕАЭС. Ніякі гэта не братэрскі падыход, а хутчэй усяго законы расейскай пуцінскай тайгі так дзейнічаюць, калі Беларусь рэальна пачынае жыць і дзейнічаць самастойна, як суверэнная дзяржава..

Супярэчнасці з Расіяй адбіваюцца сёлета падчас падзення аб'ёмаў важнейшага беларускага экспарту – нафтапрадуктаў і калійных угнаенняў. Сусветныя цэны на іх знізіліся і ў выніку Беларусь у студзені-маі зарабіла на 1,5 млрд. долараў меней у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Такія страты кампенсаваць краіне будзе проста немагчыма, што міжволі павялічвае цяжкасці з фарміраваннем дзяржбюджэту. Для простых людзей такая сітуацыя пагражае падзеннем рэальных даходаў і зніжэннем узроўню жыцця. Выхад на ўстойлівы рост беларускай эканомікі ў такіх умовах зацягваецца, ён калі і пачнецца, то не раней 2018 года.

## Дзень за днём

**Доўг Беларусі за расійскі газ вырас да 270 млн. USD. Айчынныя НПЗ у маі практычна спынілі пастаўкі нафтапрадуктаў у Расію. Ураду Беларусі дазволілі ўводзіць сертыфікацыю тавараў. 3 арэндных кватэр пачнуць высяляць пры неаплаце паслуг ЖКГ на працягу 2-х месяцаў. На ваенную службу тэрмінам на год прызываюць да 100 афіцэраў запасу. Шэраг ВНУ правялі дадатковы набор на бюджэт. Беларусы змогуць паступаць у ВНУ Польшчы па асобным конкурсе. Беларусь падасць заяўку на правядзенне зноў чэмпіянату свету па хакеі 2021 года.**

# Важнейшыя навіны свету

**Турцыя.** Прэзідэнт Р. Эрдаган увёў у краіне тэрмінам на 3 месяцы надзвычайнае ваеннае становішча, арыштавалі 99 генералаў і адміралаў, трэць ад вышэйшага камандвання.

**ЗША.** Дзяржсакратар Д. Керры заявіў, што Турцыя не прадставіла дакументаў для экстрадыцыі турэцкага прапаведніка Ф. Гюлега, ягонай віны ў ваенным пераваароце няма.

**Украіна**. Сакратар СНБА А. Турчынаў заявіў, што Генштаб Расіі ў акупіраваным Данбасе выпрабоўвае навейшыя віды ўзбраенняў: мінамётныя лазерныя комплексы КМ-8 "Грань".

**Польшча.** Урад краіны зацвердзіў законапраект аб зніжэнні з 1 кастрычніка 2017 года пенсійнага ўзросту для палякаў: да 60 гадоў для жанчын і да 65 гадоў – для мужчын.

**Бельгія.** Еўракамісія аказала дапамогу праваахоўным органам Украіны ў расследаванні забойства ў Кіеве раніцай у аўтамабіле вядомага беларускага журналіста Паўла Шарамета.

**Украіна.** У судовым парадку краіна, як пацвердзіў міністр В. Чарныш, хоча забараніць Расіі здабываць прыродны газ на шэльфе ўкраінскай зоны ў моры вакол Крыма.

**Балгарыя.** Міністр абароны М. Ненчаў абвінавуціў Расію ў шматразовых парушэннях паветранай прасторы краіны, толькі ў чэрвені было зафіксавана 10 падобных інцыдэнтаў.

**Германія.** Псіхічна нездаровы 18-гадовы немец іранскага паходжання застрэліў у гандлёвым цэнтры Мюнхена 9 чалавек, потым сябе, 35 людзей былі цяжка паранены.

**Сірыя.** Міністэрства абароны Расіі прызнала гібель 14-га па ліку ваеннаслужачага-кантрактніка падчас суправаджэння калоны аўтамабіляў у правінцыі Алеппа.

**Польшча.** Толькі з Беларусі больш 5 тысяч маладых пілігрымаў, вернікаў каталікоў удзельнічалі ў Сусветных днях моладзі ў Кракаве з удзелам Папы Рымскага Францыска.

**Украіна.** Па загадзе главароў "ДНР" палонных украінцаў на Данбасе перавялі на горшыя ўмовы ўтрымання ў СІЗА і пагражаюць ім 30-гадовым зняволеннем.

**Кітай.** З-за праліўных дажджоў абвалілася частка 30 метраў Вялікай Кітайскай сцяны на адлегласці 50 кіламетраў ад сталіцы Пекіна, яе пабудавалі ў пачатку III стагоддзя да нашай эры.

**Расія.** Чатырохразовы алімпійскі чэмпіён А. Ціханаў заявіў, што мы самі пагоршылі ўзаемаадносіны з усім светам, рухнулі адносіны, якія наладжваліся дзесяцігоддзямі.

**Кувейт.** У горадзе Мітрыбах зафіксавалі самы цёплы дзень у гісторыі чалавецтва 54 градусы цяпла, у некаторых раёнах Ірака тэмпература паветра дасягала плюс 53,9 оС.

**Кітай.** Падчас экскурсіі па парку дзікай прыроды ля Пекіна напаў тыгр і загрыз адну з жанчын, калі яны неасцярожна выйшлі з машыны ў момант сямейнай спрэчкі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск**. Эканамічны суд пачаў разгляд справы аб банкрутстве матацыклетнай кампаніі "Мінск-мота", якая працавала на базе сталічнага "Мотавела" з велізарнымі даўгамі.

**Салігорск.** Доля "Беларуськалія" па паступленні плацяжоў у бюджэт Мінскай вобласці скарацілася сёлета за паўгода ў 3 разы да 15,7 % з-за падзення сусветных цэн на ўгнаенні.

**Магілёў.** У дзень прыезду на "Магілёўліфтмаш" А. Лукашэнкі далі па максімуму адгулы, закрылі да 17 гадзін рабочую сталовую, загадалі закрыць усе вокны і апусціць жалюзі.

**Баранавічы.** Нацыянальнае агенцтва інвестыцый і прыватызацыі пры падтрымцы Сусветнага банка выставіла на продаж мясцовы камбінат жалезабетонных канструкцый.

**Мінск.** Піўзавод "Крыніца" дамовіўся з турэцкай кампаніяй Anadolu EFES аб сумесным выпуску трох гатункаў папулярнага піва "Залатая бочка", Gold Mine Beer і Green Beer.

**Шчучын.** На тэрыторыі былога ваеннага аэрадрома ля райцэнтра запрацавала другая па ліку ў раёне сонечная электрастанцыя магутнасцю 2,5 МВт коштам 50 млрд. старых руб.

**Мінск.** Вядомая журналістка С. Калінкіна заявіла, што "расійскі след" у забойстве Шарамета належыць разглядаць вельмі сур'ёзна, ён раздражняў адэптаў "рускага свету".

**Гомель.** Былога 1-га намесніка главы вобласці В. Банчука арыштавалі ў зале Магілёўскага абласнога суда, дзе пакаралі 4-мя гадамі турмы за злоўжыванні службовым становішчам.

**Светлагорск.** Мясцовае "Хімвалакно" распрацавала і пачала продаж унікальных чахлоў з абаронай смартфонаў і планшэтаў ад счытвання інфармацыі спецыяльнымі службамі.

**Мінск.** З-за крызісу, як заявіў ваенны эксперт А. Алесін, пераўзбраенне беларускай арміі адстае ад графіку, бо сучасны танк каштуе да 3 мільёнаў долараў, а баявы самалёт – 30-50мільёнаў.

**Дзяржынск.** На заводзе па вытворчасці гідраўлічнага абсталявання ў начную змену трагічна загінуў 25-гадовы рабочы тэрміст ад траўмы дзвярэй плавільнай печы.

**Негарэлае.** У парафіі Пераўтварэння Госпада ля сталіцы мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Т. Кандрусевіч асвяціў пабудаваны новы адроджаны з небыцця касцёл.

**Мінск.** Ноччу з-за наезду на бардзюр перакуліўся асфальтаўкладчык каток "Аммадор", сур'ёзна пацярпеў п'яны 60-гадовы кіроўца, работнік "Рэмаўтадора".

**Крупкі.** З-за неасцярожнасці днём 30-гадовага вадзіцеля "Хёндэ" ў ДТЗ ад лабавога ўдару з іншай іншамаркай загінулі ён сам, яго жонка са Слуцка 24 гадоў з гадавалым дзіцём.

**Мінск.** Новы сезон у КХЛ ХК "Дынама" пачне з самым слабым складам у сваёй гісторыі і з галоўным трэнерам канадцам К. Вудкрафтам без вопыту падобнай дзейнасці.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Зацверджаны пералік арганізацый для праходжання альтэрнатыўнай службы



■TUT.BY

**Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі зацвердзіў пералік арганізацый для праходжання альтэрнатыўнай службы. Гэта вынікае з пастановы Мінпрацы і сацабароны ад 31 мая 2016 года № 24 «Аб некаторых мерах па рэалізацыі Закона Рэспублікі Беларусь ад 4 чэрвеня 2015 года« Аб альтэрнатыўнай службе», апублікаваным 6 жніўня на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

У спіс увайшлі бальніцы, цэнтры сацыяльнага абслугоўвання, жыллёва-камунальныя гаспадаркі, лесагаспадарчыя ўстановы, і інш. Усяго ў пералік месцаў, дзе можна прайсці альтэрнатыўную службу, уключана 371 арганізацыя.

Дакументам таксама ўстаноўлены форма заявы для ўключэння ў пералік арганізацый, у якіх грамадзяне Беларусі праходзяць альтэрнатыўную службу, і выключэння з яго, форма прадпісання для праходжання альтэрнатыўнай службы, формы пасведчання і ўліковай карты альтэрнатыўшчыка.

Пастанова ўступае ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання.

Нагадаем, права выбраць альтэрнатыўную ваенную службу з'явілася ў беларускіх прызыўнікоў з 1 ліпеня 2016 года. Для асоб з вышэйшай адукацыяй тэрмін службы складзе 24 месяцы, без вышэйшай адукацыі - 36 месяцаў. Новы закон дае магчымасць кожнаму беларусу наўзамен вайсковай службы займацца грамадска карыснай дзейнасцю. Пайсці на альтэрнатыўную службу змогуць толькі тыя, хто не можа прымаць прысягу і насіць зброю з-за рэлігійных перакананняў.

Прызыўнікі будуць праходзіцьальтэрнатыўную службу толькі на тэрыторыі Беларусі, пры гэтым яны не маюць права прымаць удзел у забастоўках, займацца іншай аплатнай дзейнасцю, прадпрымальніцтвам. Пазней звольненым гарантуецца прадастаўленне першага працоўнага месца, а час праходжання службы залічваецца ў стаж працы. Пасля звальнення грамадзянін зможа працягнуць вучобу ва ўстанове адукацыі, у якой вучыўся да прызыву.

Пры правядзенні вясновага закліку 2016 гады каля 20 чалавек выказалі жаданне аб замене вайсковай службы на альтэрнатыўную.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На галаўным прадпрыемстве холдынга "Марко" выпусцілі юбілейную 55-мільённую пару, яна пачынае выпуск і спартыўнага абутку ў Белаазёрску, што на Брэстчыне.

**Гарадок.** Суд раёна пашкадаваў 6 вясковых сем'яў і вярнуў ім канфіскаваныя міліцыяй расійскія рублі, выручаныя за продаж вырашчаных цялят скупшчыку з Расіі.

**Полацк.** На камбінаце хлебапрадуктаў прынялі першую ў вобласці машыну з зернем новага ўраджаю з Чашніцкага раёна, на жніве штодзень будуць прымаць іх больш 200.

**Верхнядзвінск.** На базе райаграсервіса правялі выязную калегію аблсельгасхарчу па пытаннях правядзення жніва і сяўбы азімых, стварэння міжраённых мехатрадаў.

**Мёры.** Работнікі льнозавода пачалі цerабленне лёну без ачэсвання галовак, з-за працяглай засухі даўгунец загінуў у раёне на плошчы 162 гектары, дабавілі праблем лiўні і ветры.

**Шаркоўшчына.** У Белгідрамеце пацвердзілі, што смерч, які абрушыўся на райцэнтр, з'ява рэдкая для Беларусі, але не анамальная, іх бывае 1-2 штогод, прадказаць іх не навучыліся.

**Сянно.** Па патрабаванні Дзяржкантролю пакінуў пасаду дырэктар райаграсервіса, які прыпісаў 810 тон мяса, утойваў факты затрымкі заробкаў, пачнецца следства па яго справе

**Лёзна**. У райцэнтры здалі ў эксплуатацыю шосты па ліку з 2009 года новы 40-кватэрны жылы дом, плануецца яшчэ адзін, у чарзе на набыццё жылля засталося 380 чалавек.

**Віцебск.** З дапамогай гараджан міліцыя адшукала і затрымала 35-гадовага рабочага, які жорстка збіў цэглай пенсіянера на Маскоўскім праспекце і спрабаваў скрыцца.

**Браслаў.** Да радасці жыхароў Слабодкаўскага сельсавета адрамантавалі мост праз раку Друйка і пад'езд да яго, для вяскоўцаў дарога ў райцэнтр скарацілася больш чым на 10 км.

**Бягомль.** Следчы камітэт распачаў справу па факце гібелі вечарам 5 чалавек у ДТЗ на 108-м км трасы Мінск-Віцебск, калі вадзіцель Audi выскачыў на сустрэчную паласу.

**Полацк.** Віцэ-прэм'ер урада Беларусі Н. Качанава правяла ў горадзе выязное пасяджэнне Міжведамаснага экспертна-каардынацыйнага савета па развіцці турызму.

**Глыбокае.** У экспазіцыйнай зале раённага Дома рамёстваў адкрылася выстава маляўнічых пейзажаў фатографа-падарожніка з Пастаў Васіля Белякова "Кветкі роднай Беларусі".

**Віцебск.** Рэдактар аддзела культуры газеты "СБ. Беларусь сегодня" В. Папова заявіла, што многія "зоркі" рускай эстрады вядуць сябе на "Славянскім базары" брыдка і крывадушна.

**Паставы.** Інспектар па кадрах мясцовага ДЭУ-33 Сяргей Падрэз стаў пераможцам на "Славянскім базары ў Віцебску" конкурсу 3D малюнкаў "Мая Беларусь – мой выбар".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

■ Уладзімір Скрабатун

**Айцец Анатоль: Я цяжка хварэў і думаў: "Вось бы мне іспіць яе вады – у мяне выраслі б крылы! Я б – паляцеў! Быў бы здаровы! І пайшоў шукаць гэтую крыніцу... І я яе знайшоў!**

# Гэтая студня – вечная!

**7 жніўня ля крыніцы ва ўрочышчы Грамякі, адбыўся традыцыйны вадасвятны малебен у гонар святога Вялікапакутніка і лекара Панцелеймана.**

На Беларусі, асабліва там, дзе пагоркавыя ўзвышшы, ёсць нямала крыніцаў "узыходнага гейзернага" тыпу. Вада ў іх можа выходзіць вонкі аж з глыбіні да 500 метраў. Напэўна, іх не адна сотня. Але, што мы пра іх ведаем? Некаторыя, натуральна, патрапілі ў адмысловыя выданні, але ж цяпер век інтэрнэту, і мала хто наведваецца ў бібліятэкі, хіба толькі студэнты.

Падобная крыніца "ўзыходнага гейзернага" тыпу знаходзіцца недалёка ад Глыбокага, на Свянцянскім узвышшы. Гэта крыніца, якая выцякае з-пад гары Вясёлай, ва ўрочышчы Грамякі, што ў Асінагародскім прыходзе Пастаўскага раёна – паміж вёскамі Норыца і Сарокі.

Штогод ля крыніцы Грамякі адбываецца вадасвятны малебен у гонар Вялікапакутніка і лекара Панцелеймана. Бывае, калі спрыяе надвор'е, народу збіраецца вельмі шмат. Ужо на пад'ездзе да ўрочышча, за пару кіламетраў, бачна, як з розных прасёлкаў сцягваюцца сюды чароды раварыстаў, перадусім, у большасці сваёй жанчынаў.

Крыніца Грамякі – ад сівой даўніны – культавае месца. Ад паганцаў перайшло да хрысціянаў. Аднак, у гады «ваяўнічага атэізму», пра крыніцу забыліся, яна згубілася. Яе потым доўга шукалі. Знайшлі ў непраходных гушчарах кустоўя і алешніку. Ачысцілі, добраўпарадкавалі, і ўжо дзясятак гадоў запар тут адбываецца традыцыйны вадасвятны малебен. Правodзіць яго настаяцель асінагародскай царквы Пакрыва Найсвяцейшай Багародзіцы іерэй Анатоль Папоў.

У часе ўрачыстасці спявае хор пеўчых, святар чытае малітву, згадваецца патрыярх, мітрапаліт, епіскап, святая Еўфрасіння Полацкая і ўсе святыя зямлі беларускай. Чытаецца малебен за здароўе, называюцца імёны тых, хто прагне выздараўлення, і зычэнні ім узняцца з ложкаў у бальніцах і хатах. Асвячаецца келіх крынічнай вады. Гэты келіх выліваюць потым у крынічнае азярцо.



**Вада крышталёва-празрыстая, у яе можна глядзецца, як у люстэрка.**

Пасля гэтага прысутныя падыходзяць да абраза святога Вялікапакутніка і лекара Панцелеймана, затым – да айца Анатоля, цалуюць крыж, якім была асвечаная вада крыніцы, і ўсе атрымліваюць акрапленне святой вадой.

На заканчэнне ўрачыстасці ўсе, хто прыйшоў, прыехаў на роварах, а то і на джыпе: напаўняюць слоікі, бідоны ці пластыкавыя бутэлькі сцюдзёнай крынічнай вадой, ну й дадому.

– *Дзякуй Богу, вады ўсім хапіла!*– жартуе адна жанчынка сталага веку, бурбалячы пластыкавай бутэлькай.

– *Гэтая студня вечная!*– гэтак сама пажартаваў мужчына, які ўжо сыходзіў з поўным бідонам.

Дарэчы, прысутнічалі тут і мясцовыя каталікі, гэта вынікала з імёнаў, якія паміж сабой называлі прысутныя. Ванда ж – ніяк не праваслаўнае імя.

Вада ў крынічным азярцы мае спецыфічны зялёна-блакітны градыент, не плавае тут ні кузурка, ні жаба. Выцякае з яго хуткаплынная ручаіна шырынёй пад метр, праз 70 метраў яна ўліваецца ў возера Вешнае. У крынічным азярцы, на дне, вада «кіпіць», віруе, узнімаючы пясчаны пыл.

Мая калега Таццяна Смоткіна, журналіст, паспрабавала ўзяць інтэрв'ю ў айца Анатоля, але выйшла неспадзяванка!

– *Я бачыў, што вы не цалавалі крыж!*– пярэчыць ёй святар.

– Дык я ж – каталічка!

– *Усё роўна трэба цалаваць крыж!*

Прыйшлося цалаваць! Ды яшчэ, як «неправаверную», так яе зліў вадой – ушчэнт!

– *Крыніца – глыбокая!*– кажа айцец Анатоль. – *Адмыслоўцы сцвярджаюць – да 200 метраў глыбіні! Купацца ў ёй нельга, дна няма!*

*Крыніца Грамякі – культавае месца яшчэ з паганскіх часоў. А што такое 1000 гадоў! Гэта 20 чалавек, праз якіх, адзін да другога, перадаецца гісторыя.*

*Побач – гара Вясёлая. З вуснаў у вусны, цягам стагоддзяў, перадавалася паданне: перад тым, як пачаць уборку хлеба – прыносілі там у ахвяру – маладую, самую прыгожую дзяўчыну.*

*– У даўнія часы, як сцвярджае адно паданне,*– працягвае святар, *– спынілася войска на Вясёлай гары, а сын князя павёў да крыніцы папаіць каня... Берагі яе былі амшалыя, вада схаваная. Ступілі крок – конь і сын князя ў даспехах праваліліся разам скрозь дно. А некалі, быў выпадак, 16 быкоў прыйшлі на вадапой… Усе 16 – дна не дасталі, пайшлі разам у нетры крыніцы.*

*Некалі мясцовы пан хацеў тут пабудаваць млын – пад 150 літраў за хвіліну выдае крыніца. Але потым перадумаў, бо зямля не трывалая, зыбкая.*

*Я лічу: назва "Грамя́кі" славянская, паходзіць з часоў Кіеўскай Русі. Ёсць і слова "Грамя́кі" ва ўкраінскай мове. Чаму крыніцу клічуць Грамякі? Кожную вясну, калі ўсё таяла, крыніца грымела, з-пад зямлі даносіліся гукі. Усе людзі чулі.*

**– Што самае цікавае для Вас, звязанае з гэтай крыніцай?**

*– Мне было 40 гадоў... Цяжка захварэў. Згадаў я Пабалаўскую крыніцу на Рагачоўшчыне. Яна цурчэла ўдзень і ўночы, такая сцюдзёная вада ў яе была! Я хварэў і думаў: "Вось бы мне іспіць яе вады – у мяне выраслі б крылы! Я б – паляцеў! Стаў здаровы! І пайшоў шукаць гэтую крыніцу (Грамякі)... І, я яе знайшоў! Яна – уся ў зарасніках! Але вада цякла. Мы сабраліся, ачысцілі, навялі парадак, крыж паставілі. Пры ачыстцы выявілі, што берагі крыніцы былі ўмацаваныя дубовымі палямі[1], якім мінімум 200-300 гадоў. Месца гэтае здаўна шанавалася, добраўпарадкавалася!*

*Ужо гадоў дзесяць запар прыходзім сюды, асвячаем ваду. Людзі прыходзяць, прыязджаюць здалёку і зблізку. Яны прыязджалі і раней. Памятаю, мы тут працавалі, рамантавалі, наводзілі парадак... Раптам, прыязджае аўтобусік, поўны людзьмі, з Маладзечна. Выходзяць з бідонамі, каб вады набраць! Набралі. Крыніца здавён, яшчэ да рэвалюцыі, была далёка вядомая!*

*Узімку, у самыя лютыя маразы, крыніца ніколі не замярзае! Швэндаюцца паляўнічыя па палях і пагорках, а здабычы няма. Ідуць на крынічнае азярцо качак страляць.*

**– Ці праводзіўся хімічны аналіз вады? Можа тут, вобразна кажучы, мінералка цячэ?**

*– Праводзілі! Вада смачная, добрай якасці. Шкада, мой блог, па незразумелых прычынах, выдалілі з інтэрнэта, а там былі шматлікія паданні нашага краю, аналіз хімічнага складу вады крыніцы… Цяпер усё трэба рабіць нанова!*

На заканчэнне дождж, які ўвесь час рэдкімі кроплямі палохаў сваім прыходам, усё ж, нарэшце ўліў!

1. Па́ля – сва́я.



**Усе прысутныя вакол крынічнага азярца запальваюць свечкі.**



Таццяна Смоткіна: **«Чаму крыніцу клічуць Грамякі?».** Мясцовы жыхар: ***«Даўней, кажуць, як вывяргалася вада з нетраў крыніцы, – грымела! Грымота далёка была чуваць! Таму – Грамякі!»***



**Кажуць, вада ў крыніцы гаючая! Усе прыезджыя напаўняюць ёмістасці. Вада доўга захоўваецца, не псуецца!**

# На Абрубскім гасцінцы



Зоя Стоцік
*в. Абруб Беразвецкі*

**Паважаная рэдакцыя! Хачу расказаць Вам, што 19 чэрвеня ў вёсцы Абруб-Беразвецкі праводзілася Свята вёскі. Шмат прыемных уражанняў засталося ў памяці, а яшчэ больш успамінаў аб былым і перажытым нахлынула ў душу. Радасна, што вёска адраджаецца, будуецца, прыгажэе, і, разам з тым, крышку сумна ад таго, што, магчыма, у будучым яна далучыцца да горада, страціць вясковы каларыт, забудзецца яе гісторыя. Хочацца, каб мае землякі, ураджэнцы вёскі, якія не пабывалі на свяце, успомнілі сваю маленькую радзіму, пакланіліся ёй хаця б у думках, прачытаўшы мой верш.**

На скрыжаванні дарог старасвецкіх,
Дзе колісь бярозы вакол красавалі,
Стаіць мая вёска Абруб-Беразвецкі,
Адлік свой вядзе ад мінуўшчыны даўняй.
І сонца свяціла, і хмары кружылі,
І вецер вайны бушаваў ураганны –
Вяскоўцы ж жылі, працавалі, дружылі,
Дзяцей выпраўлялі ў свет неспазнаны.
У вёсках вакольных цанілі работу
Майстроў нашых, здатных на ўсякія рэчы:
У вяселле ішлі ў Сямёнавых ботах,
У сцюжу – кажух Мікадзімаў на плечы!
У кузніцы горан агнём зыркім пыхаў
І слухаўся молат Віталю з Рыгорам...
Краўцы і шаўцы, муляры і ткачыхі,
Былі вам прывычны і кросны, і жорны.
Павесяліцца любілі на свяце:
Баян Сакалоўскага клікаў у скокі,
Звінелі цымбалы ў Ляхавай хаце,
А Грышкава скрыпка паддаквала бойка.
Гады працяклі, як між пальцаў пясчынкі,
Мы новымі рытмамі цешыцца сталі.
Пах летняй вячэры ў садку на цаглінках
Адбіў ганарліва шашлык на мангале.
Змянілася ўсё: гульні, песні, мы самі...
Падворкі прыгожыя – не наглядзецца!
А дрэву пад сайдынгам сняцца начамі
Хаванкі на печы, калыска на бэльцы...
Абруб-Беразвецкі – дзяцінства калыска,
Ты – сведка шчаслівых жыццёвых імгненняў.
Ад сталых вяскоўцаў – паклон табе нізкі,
На новы віток вывадзі пакаленні!




**Абруб-Беразвецкі. Да Глыбокага – усяго 500 метраў.**
*Фота Змітра Лупача.*



# Прафілактыка вострых кішачных інфекцый

**Вострыя кішачныя інфекцыі (ВКІ) – гэта шматлікая група вострых інфекцыйных захворванняў, выкліканых рознымі мікраарганізмамі (прасцейшымі, бактэрыямі, вірусамі) з пераважным паражэннем страўніка-кішэчнага тракта.**

■ **Л. Козел,** *загадчык аддзела эпідэміялогіі*

Узбуджальнікі ВКІ ў арганізм чалавека трапляюць з ежай, вадой, у маленькіх дзяцей – праз брудныя рукі, цацкі.

У летні перыяд ствараюцца спрыяльныя ўмовы для захавання і размнажэння ўзбуджальнікаў ВКІ ў навакольным асяроддзі. Пры масіўным назапашванні ўзбуджальнікаў у навакольным асяроддзі часгата іх траплення ў страўніка-кішэчны тракт чалавека павялічваецца, адпаведна павялічваецца верагоднасць узнікнення захворванняў.

Летам узрастае небяспека захворванняў ВКІ, звязаных з перадачай узбуджальнікаў праз харчовыя прадукты. Са змяненнем метэаўмоў (рэзкае павышэнне тэмпературы паветра) узрастае верагоднасць парушэнняў тэмпературных умоў захоўвання і рэалізацыі хуткапсуючыхся харчовых прадуктаў, што можа паслужыць прычынай ВКІ.

Забруджванне харчовых прадуктаў можа адбыцца ў выніку парушэння правілаў асабістай гігіены (мыццё рук) пры падрыхтоўцы, кулінарнай і тэрмічнай апрацоўцы харчовых прадуктаў, пры парушэнні правілаў і тэрмінаў транспарціроўкі, захоўвання, рэалізацыі, харчовых прадуктаў і кулінарных страў.

Асаблівую небяспеку ўяўляюць харчовыя прадукты, што хутка псуюцца, а таксама стравы, якія прыгатаваныя без тэрмічнай апрацоўкі і ўжываюцца ў халодным выглядзе. Узбуджальнікі ВКІ ў іх могуць не толькі назапашвацца, але і размнажацца.

Падрыхтоўка вялікіх аб'ёмаў ежы ў запас у спалучэнні з яе няправільным захоўваннем (пры пакаёвай тэмпературы) спрыяе размнажэнню мікраарганізмаў або ўтварэнню таксінаў і можа прывесці да захворвання.

Пасля патраплення ўзбуджальніка ў арганізм хвароба праяўляецца не адразу. Гэта так званы схаваны, інкубацыйны



перыяд, які доўжыцца ад некалькіх гадзін да 3-7 дзён. Да канца гэтага перыяду ў хворых павышаецца тэмпература, з'яўляецца слабасць, млоснасць, пагаршаецца апетыт, з'яўляюцца болі ў жываце, ваніты, часта вадкі стул.

Захворванне ВКІ можа працякаць у выглядзе здаровага носьбіцтва. Хворыя або носьбіты ўяўляюць небяспеку для навакольных, бо з фекаліямі выдзяляецца велізарная колькасць узбуджальнікаў у навакольнае асяроддзе. Далей праз забруджаную ваду, прадметы ўжытку, рукі або харчовыя прадукты узбуджальнікі ВКІ зноў трапляюць у кішэчнік здаровага чалавека.

Некаторыя захворванні працякаюць у лёгкай форме, таму хворыя не звяртаюцца да ўрача, а займаюцца самалячэннем. Гэта можа прывесці да непажаданых наступстваў. Абавязкова звярніцеся да лекара пры першых сімптомах захворвання.

Каб засцерагчы сябе і сваіх родных ад захворвання на ВКІ неабходна выконваць наступныя **меры прафілактыкі**:

■ строга выконвайце правілы асабістай гігіены, часцей і старанна мыйце рукі з мылам пасля вяртання дадому з вуліцы, перад ежай і пасля наведвання туалета;

■ для піцця выкарыстоўвайце кіпячоную, бутыляваную або ваду гарантаванай якасці;

■ гародніну, садавіну, ягады старанна мыйце перад ужываннем пад праточнай вадаправоднай вадой, а для маленькіх дзяцей яшчэ і кіпячонай вадой;

■ бахчавыя культуры не варта купляць у разрэзаным выглядзе, бо мікраарганізмы з паверхні лёгка пераносяцца і размнажаюцца ў мякаці;

■ пры транспартаванні і захоўванні прадуктаў выкарыстоўвайце чыстую ўпакоўку (поліэтылен, кантэйнеры для харчовых прадуктаў і да т.п.);

не набывайце прадукты харчавання ў выпадковых асоб ці ў месцах несанкцыянаванага гандлю;

■ у хатніх умовах выконвайце правілы гігіены пры падрыхтоўцы гарачых і халодных страў, тэрміны прыдатнасці і ўмовы захоўвання харчовых прадуктаў, асабліва якія хутка псуюцца, сырыя прадукты і гатовую ежу варта захоўваць асобна;

■ для апрацоўкі сырых прадуктаў неабходна карыстацца асобнымі нажамі і апрацоўчымі дошкамі;

■ звяртайце ўвагу на тэрміны прыдатнасці пры куплі прадуктаў, асабліва тых, якія хутка псуюцца, – вараныя каўбасы, салаты, тварог, малако, піражныя і інш.;

■ не пакідайце прыгатаваную ежу пры пакаёвай тэмпературы больш за дзве гадзіны;

■ не трэба змешваць свежапрыгатаваную ежу з рэшткамі ад папярэдняга дня, але калі гатовая ежа застаецца на другі дзень, то перад ужываннем яе неабходна тэрмічна апрацаваць (пракіпяціць або прасмажыць);

■ на кухні захоўвайце чысціню, не назапашвайце смецце і харчовыя адходы, не дапускайце з'яўлення мух і прусакоў;

■ пастаянна падтрымлівайце жыллё ў чысціні і выконвайце правілы асабістай гігіены, асабліва калі ў сям'і ёсць маленькія дзеці; перад іх кармленнем мыйце рукі з мылам, выкарыстоўвайце толькі свежапрыгатаваныя дзіцячыя сумесі; дзіцячы посуд рэгулярна мыйце з выкарыстаннем дазволеных мыйных сродкаў, пасля чаго старанна прапалашчыце, перад ужываннем абліце кіпенем; цацкі таксама мыйце перад тым, як даваць дзецям;

■ не купайцеся ў вадаёмах, дзе гэта не рэкамендуецца або забаронена.

Захаванне ўсіх пералічаных рэкамендацый дапаможа Вам пазбегнуць захворвання на ВКІ.

# Мяса бабра лепш замачыць у чырвоным віне



**Бабёр – спрадвечны насельнік рэк і азёр Беларусі. У мінулым – важны аб'ект палявання, абмену і гандлю.**

У XVI стагоддзі Статутам Вялікага Княства Літоўскага вызначаліся некаторыя меры па ахове бабра, аднак драпежніцкі промісел дзеля футра і бабровага струменю абумовіў хуткае змяншэнне натуральных запасаў. У 1929 годзе ў Беларусі было вядома ўсяго 54 месцы пражывання баброў, у якіх налічвалася каля 300 асобін.

У цяперашні час бабёр у Рэспубліцы Беларусь стаў шматлікім відам. Будаўнічая дзейнасць баброў спрыяе багаццю жывёльнага свету ў прылеглых угоддзях. Бабровыя плаціны стрымліваюць распаўсюд лясных пажараў. Іншымі словамі, бабры аднаўляюць гістарычную справядлівасць, спрыяючы другаснаму забалочванню тэрыторыі, у той час як чалавек бяздумна асушваў балотныя масівы. У гэтым роля бабра карысная і няма неабходнасці гэта аспрэчваць.

Аднак недастатковае выкарыстанне рэсурсаў рачнога бабра прывяло да перанасялення асноўных месцапражыванняў жывёл і забяспечыла засяленне гэтым відам нават не ўласцівых для іх пражывання вадаёмаў. Таму перасяленне баброў з аб'ектаў меліярацыі ў іншыя вадаёмы немэтазгодна.

Зашмат размножаны бабёр пачаў прыносіць некаторую шкоду народнай гаспадарцы. У першую чаргу гэта тычыцца сельскагаспадарчых угоддзяў, дзе з-за будаўнічай дзейнасці бабра адбываецца падтапленне некаторых участкаў і іх забалочванне. Акрамя таго, у выніку сваёй жыццядзейнасці бабры прычыняюць шкоду гідратэхнічным збудаванням (руйнуюць берагі, дамбы, дарогі, забіваюць шлюзы, выкарыстоўваючы іх у якасці плацін) і ўплываюць на гідралагічны і гаспадарчы рэжым штучных вадаёмаў. У затопленых участках лесу ўсыхае драўнянахмызняковая расліннасць. Акрамя гэтага, бабёр ў вялікай колькасці падгрызае каштоўныя пароды дрэў (дуб, клён, вяз), а каскад плацін перашкаджае натуральнаму нерасту рыбы. Такім чынам, з каштоўнага пушнога віду ён ператвараўся ў шкодніка.

У цяперашні час каштоўнасць бабра як пушнога віду значна знізілася з-за нізкіх коштаў на мех. У мінулым шкуры бабра выкарыстоўваліся для вырабу каўняроў, шапак, жаночых футравых вырабаў. Струмень бабра шырока ўжываўся ў парфумернай прамысловасці, медыцыне і ветэрынарыі. Што тычыцца гастранамічных якасцяў мяса бабра, то адказ адназначны: яго трэба выкарыстоўваць у ежу чалавеку. Так, маецца спецыфічны смак і пах, іх можна ліквідаваць, папярэдне замачыўшы мяса ў воцаце або чырвоным сухім віне.

У сувязі з прычыненнем шкоды сельскай і лясной гаспадарцы, унесены некаторыя змены ў заканадаўства аб парадку планавання ліквідацыі дадзенага віду. Так карыстальнікам паляўнічых угоддзяў пасля правядзення ўліку бабра планаванне ліквідацыі павінна ажыццяўляцца асобна на разліковай тэрыторыі пражывання і гідратэхнічных збудаваннях. На гідратэхнічных збудаваннях прадугледжана стопрацэнтная ліквідацыя гэтага віду. Дазволеныя тэрміны палявання на бабра ў Беларусі з 1 верасня па 31 сакавіка ў светлы час сутак, спосабы палявання безружэйны, ружэйны з засады, з падыходу. Пры ружэйным спосабе палявання дазваляецца выкарыстанне наразной паляўнічай зброі з дульнай энергіяй кулі звыш 1500 Джоулей, гладкаствольнай паляўнічай зброі з выкарыстанем патронаў з кулямі і карцеччу, паляўнічыя лукі і арбалеты, пры безружэйным спосабе палявання дазваляецца выкарыстанне пастак №3-7, расткі (акрамя петляў), паляўнічыя сабакі пры лоўлі пасткамі: усе пароды, акрамя ганчакоў і хартоў. Карыстальнік паляўнічых угоддзяў мае права скарачаць тэрміны палявання, а таксама абмежаваць або забараніць прымяненне прыладаў і (або) спосабаў палявання. У сувязі з гэтым паляўнічым пры атрыманні дазвольных дакументаў на ліквідацыю бабра варта звяртаць увагу на ўмовы палявання, названыя ў паляўнічай пуцёўцы да дазволу і дазволе на здабычу паляўнічай жывёлы.

Таксама хацелася б нагадаць паляўнічым аб неабходнасці строга выконваць тэхніку бяспекі на паляванні, асабліва пры абарачэнні з паляўнічым зброяй.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі спадзяюцца, што нашы паляўнічыя не будуць парушаць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання ў Рэспубліцы Беларусь.

Удалага ўсім палявання!

**Аб усіх правапарушэннях, якія ўчыняюцца ў прыродаахоўнай сферы, вы можаце паведаміць на тэлефон "гарачай лініі" 8-02156-2-86-70 або на мабільныя тэлефоны: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645 -66-78 (МТС).**

*Глыбоцкая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету*

# Спынім бяду разам!

**Пад такой назвай АДАІ Глыбоцкага РАУС правяло з 24 па 31 ліпеня рэспубліканскую прафілактычную акцыю па папярэджанні дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам нецвярозых кіроўцаў пад дэвізам «Спынім бяду разам!», накіраваную на папярэджанне і прафілактыку ДТЗ з удзелам нецвярозых кіроўцаў.**

■ **А. Завадскі,** *начальнік АДАІ, падпалкоўнік міліцыі*

На вялікі жаль, на сённяшні дзень не атрымоўваецца выкараніць п'янства за рулём. Дадзеная праблема існуе і ў нашым раёне. Нягледзячы на прапаганду бяспечных паводзінаў удзельнікаў дарожнага руху, якая праводзіцца работнікамі дзяржаўтаінспекцыі, яшчэ нямала знаходзіцца грамадзян, якія не супраць у п'яным выглядзе пракаціцца за рулём, як аўтамабіля, так і матацыкла.

За шэсць месяцаў бягучага года супрацоўнікамі АДАІ затрымана 55 вадзіцеляў, 5 паўторна на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за аналагічнае правапарушэнне.

Калі ўдумацца ў гэтую лічбу, то становіцца не па сабе. Бо гэтыя асобы, маглі прынесці нічым несувымерную гора ў чые-небудзь сем'і. Яны, хто наўмысна, хто ад таго, што прытупілася прытомнасць ад выпітага спіртнога, селі за руль сваіх транспартных сродкаў і кіравалі імі не па палявых дарогах, а па дарогах і вуліцах, па якіх рухаемся і мы з Вамі, па якіх рухаюцца нашы дзеці, бацькі, сёстры і браты, як на транспарце, так і ў якасці пешаходаў. З-за такіх нядбайных кіроўцаў, падвяргаюцца небяспецы нашы блізкія людзі.

Сёння мы аналізуем сітуацыю ў раёне, і не ўкладаецца ў галаве той факт, што некаторым грамадзянам няма ніякага страху перад вялікім штрафам, перад тым, што за кіраванне транспартам у стане алкагольнага ап'янення кіроўца пазбаўляецца права кіравання транспартнымі сродкамі тэрмінам на 3 гады, што з -за чаркі выпітага губляюць нармальную працу.




За шэсць месяцаў бягучага года на дарогах раёна ўчынена 4 дарожна-транспартныя здарэнні, у выніку якіх адзін чалавек загінуў і тры атрымалі цялесныя пашкоджанні і былі шпіталізаваныя ў бальніцу. Адно здарэнне ўчынена кіроўцам у стане алкагольнага ап'янення, у выніку чаго пешаход быў шпіталізаваны.

Звяртаем вашу ўвагу, што **за паўторнае кіраванне транспартам у стане алкагольнага ап'янення прадугледжана крымінальная адказнасць.**

Дзяржаўтаінспекцыя Глыбоцкага РАУС заклікае ўдзельнікаў дарожнага руху да захавання Правілаў дарожнага руху, да сумесных намаганняў па навядзенні парадку на дарогах раёна і выкараненні п'янства за рулём. **Калі Вам стала вядома, што транспартным сродкам кіруе вадзіцель у стане алкагольнага ап'янення, просьба паведаміць на тэлефоны: 1-02, 2-27-78, (597-21-74 (МТС) – у начны час).**

## МНС інфармуе
**на 09.08.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 413;
Гібель людзей – 44, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 14;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

